*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 461 • Сакавік 1999 г.
Год выд. 49

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## ДЗЕНЬ 25 МАРЦА — НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СЬВЯТА БЕЛАРУСІ

***(З АРХІВУ)***

Тры гады таму назад у сталіцы Беларусі Менску, Беларуская Дзяржаўная Рада, выпаўняючы пастановы Ўсебеларускага Кангрэсу і волю народаў Беларусі, абвясьціла наш край вольным і ад нікога незалежным.

Гэтай граматай былі паложаны новые падваліны беларускай дзяржавы:

а) што да ўстаноўлена назова Беларуская дзяржава, якая з гэтага часу называецца Беларускай Народнай Рэспублікай;

б) Беларуская Народная Рэспубліка распасьціраецца на ўсе граніцы [...] якой дзесяцьлічэбная перавага беларускага народу;

в) Усім нацыянальным меншасьцям Беларуская Народная Рэспубліка забясьпечыла грамадзянскія свабоды, поўнае роўнапраўе перад законам і культнац[ыянальную] аўтаномію.

г) Працоўнаму народу Беларуская Народная Рэспубліка забясьпечыла ўласьць у сваёй тэрыторыі.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, прыняўшы ўласьць з рук працоўных мас Беларусі, ва ўсіх сваіх чыннасьцях і выступленьнях кіраваўся і кіруецца інтарэсамі працоўных мас Беларусі.

Урад разам з народам сваім бароўся за волю і за незалежнасьць.

Ужо тры гады прамінула ў безупыннай барацьбе. Увесь гэты час на нашай зямлі гаспадарылі варожыя сілы. Акупацыя зьмянялася акупацыяй. Беларуская зямля залівалася крывёй і сьлязамі народаў Беларусі. Акупанты грабілі апошняе наша дабро. Чужакі, пераходзячы з краю ў край нашу маці-Беларусь, палілі вёскі, руйнавалі гарады і пакідалі кожны за сабой крыўды, голад, холад і сьмерць.

З 1915 году мы ня можам адпачыць ад страхоцьця вайны і ўзяцца за спакойную, творчую працу.

Увесь гэты час Урад БНР, разам са Старшынамі Рады БНР цьвёрда трымаў сьцяг, сьцяг тваёй Волі, Беларускі Народзе, і волі ўсіх народаў Беларусі.

Пад гэтым сьцягам пралівалі кроў лепшыя сыны Беларусі. За гэты сьцяг тысячы лепшых сыноў Беларусі гнояцца ў канцэнтрацыйных лагерах і турмах бальшэвіцкіх і польскіх.

З гэтым сьцягам прадстаўнікі Ўраду ішлі заграніцу ўсюды голасна пратэстуючы супраць зьдзекаў, гвалтаў і няпраўды, якія тварыліся чужынцамі ў родным краю.

Усюды, дзе толькі білася сэрца сыноў Беларусі, ва ўсе куткі Беларусі Ўрад паслаў словы надзеі, словы падтрыманьня, словы заклікаючыя да барацьбы за нашу праўду.

І цяпер, у дзень нашага нацыянальнага сьвята, у дзень 25 марца 1921 году мы клічам Цябе, Беларускі Народзе, і ўсе народы Беларусі, не пакідайце барацьбы за свае правы, за сваю волю і долю.

Не верце чужынцам, што Твая доля ўжо вырашана. Не лезьце самохаць у чужацкае ярмо: яно нясе гора, сьлёзы, зьнявагу і вечную нядолю.

Памятайце, народы Беларусі, што ваш Урад стаіць на стражы і змагаецца за вашы правы і лепшую будучыню.

Раней дзялілі цябе, Беларусі Народзе, фронтам, а цяпер хочуць граніцай замацаваць разрыў жывога нашага цела. Не будзе гэтага!

Хочуць тваю зямлю замацаваць за польскім панам і маскоўскай камунай.

Не будзе гэтага.

Хочуць наслаць на дас чужакоў і твае, Беларусі Народзе, палітыя потам і крывёю землі, раздаць ім.

Не будзе гэтага.

Разьдзёртая напалам, думаюць что Беларусь сканае, а Беларускі народ замрэ, загіне ў няволі.

Не будзе гэтага.

Жыла Беларусь і будзе жыць. І ўваскрэсьне яна сьвятая і многапакутная.

Пад сьцягам БНР, на загаду свайго Беларускага Народнага Ўраду, біўся за вольную і незалежную Беларусь, за яе непадзельнасьць, за працоўную, усенародную ўласьць на Беларусі.

І ведай, што дзень той недалёк, калі ты, працоўны народзе Беларусі, будзеш гаспадаром сваёй Бацькаўшчыны.

Злосьць і нянавісьць нашых ворагаў будзе пастыджана.

Братаўбойчыя іх угоды будуць ім ганьбай, ліхадзейскія граніцы, устаноўленыя імі на нашым жывым целе, будуць праклёнам ім.

Слава тым, хто загіб у барацьбе за Бацькаўшчыну.

Чэсьць усім тым, хто праліваў і пралівае кроў за праўду.

Няхай жыве Беларуская Рэвалюцыя.

Няхай жыве працоўны беларускі народ.

Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка.

*З папераў В. Ластоўскага (чарнавы аўтограф). 1921. Друкуецца ўпершыню.*

**Публікацыя Януша Крывіцкага**

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

***прэзыдыюм***

Дарагія Суродзічы на Чужыне,

Вітаю Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, Днём абвешчаньня, 25-га сакавіка 1918-га году, незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сьвяткуем мы гэты Дзень сёлета з асаблівай трывогай у сэрцах, бо Бацькаўшчына наша апынулася ў небясьпецы поўнага паняволеньня.

Але ня час апускаць рукі! Наадварот, у гэтыя так цяжкія часы для нашага краю, мы мусім выкарыстоўваць кожную нагоду, каб інфармаваць сьвет ў якіх умовах жыве наш народ, як над ім зьдзекуюцца маскоўскія калябаранты, як яго цягнуць зноў у няволю.

Лёс нас закінуў у шматлікія краіны вольнага сьвету. Кожная зь іх мае голас на міжнароднай арэне. Кожная зь іх можа памагчы выратаваць Беларусь ад новага паняволеньня. Але зробіць гэта толькі тады, калі пачуе наш голас.

Дык заклікаю Вас, дарагія Суродзічы, зьвяртайцеся да Вашых дэпутатаў, міністраў замежных спраў, прэм'ераў, прэзыдэнтаў — прасеце каб не дапусьцілі да новай акупацыі нашай Бацькаўшчыны. Зьдзнаныя, мы адродзім вольную і незалежную Беларускую Дзяржаву!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

## САКАВІК — 1999

Дарагія суродзічы!

Дзень 25-га сакавіка — гэта дзень нашага нацыянальнага ўздыму, дзень волі Беларусі, дзень адраджэньня беларускае дзяржавы.

Сёньняшні ўрад Беларусі, пачынаючы ад прэзыдэнцкае адміністрацыі да парлямэнту, усталёванага Лукашэнкам — гэта камуністычнае зборышча, кіруючую ролю ў якім займаюць у большасьці чужынцы, якія зацікаўлены толькі ў адным — утрыманьні ўлады над народам Беларусі. Яны загналі нашу Бацькаўшчыну ў палітычны і эканамічны тупік, а наш народ нагэтульки запалохалі, што ён баіцца выказаць сваю думку, не адважваецца ганьбіць учынкі ворагаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Аб'яднаўшыся навакол ідэі барацьбы за незалежнасьць, і ведаючы, што разнастайнасьць поглядаў стымулюе людзкую творчасьць, мы павінны зрабіць ўсё магчымае, каб дапамагчы нашаму народу вызваліцца з ланцугоў абыякавасьці і набрацца сілы для барацьбы за аднаўленьне поўнае беларускае незалежнасьці.

Верачы ў зьдзейсьненьне ідэялаў незалежнасьці, будзем нашым шматгалосым хорам, разам з нашай патрыёткай-пакутніцай Ларысай Геніюш, паўтараць і верыць у яе прыгожыя, абнадзейлівыя радкі:

*І ня сьціхне песьня ў Прынямоньні*
*І ня зьгіне мова на Дняпры*
*Прыйдзе час і водгульле Пагоні*
*Да сялібаў данясуць вятры!*

*Залунае сонечна Пагоня,*
*Мужны рыцар, крыж і белы конь*
*І народ наш болей не застогне,*
*Што прайшоў пакуты і агонь!*

Жыве Беларусь!

**Міхась Сенька**
**Сакратар, БККА**

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня, БККА**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## Прыхільнікам і сябрам

Паважаныя сябры і прыхільнікі Народнага Фронту!

Гісторыя Беларусі за апошнія 200 гадоў пераканаўча даказвае нам, што ня было і няма больш цяжэйшай долі, чым у тых, хто змагаўся і змагаецца за гонар і волю Беларусі. У нас заўсёды біўся толькі авангард, а грамадзкія сілы былі альбо ў сьне, альбо скраю. Не зьдзіўляймася. Тут гэта звычайна.

Мы ў чарговы раз уступілі ў няроўны бой — і пераможам, калі будзем пэўныя цьвёрда ў сабе.

Ня трэба вагацца, ня трэба сумнявацца, нельга баяцца. Рэжым хоча запалохаць фронтаўцаў і ўжывае псыхалягічны націск. Але ніякай духоўнай сілы ў рэжыму ня было й няма, палытычная ініцыятыва не ў яго-ных руках. Масавыя рэпрэсіі, якія хацеў бы пачаць Лукашэнка, канчаткова яго пахаваюць. Таму — ня бойцеся. Што б ён ні рабіў — ён усяроўна прайграе разам з Масквой і разам з Чыгіром, калі мы будзем настойлівымі, цьвёрдымі і непахіснымі. Надыходзіць канец дыктатуры ў Беларусі, й ніякія рэпрэсіі, ніякія маскоўскія пляны не ўратуюць Лукашэнку.

Хачу падзячыць словам і падтрымаць упэўненасьцю фронтаўцаў, працаўнікоў і змагароў Ініцыятыўнай групы. Мы павінны перамагчы гэтую зграю дараднікаў і беларускажэрцаў, якія б перашкоды перад намі ні паўсталі. Мы ўсё адновім і ўсё вернем: наш гонар і сродкі, адабраныя штрафамі і канфіскацыямі, свабоду і незалежнасьць, правa й законы, БНР і сьцяг, Пагоню й Бацькаўшчыну — вольную Беларусь.

Не сумняваймася — і пераможам!

**Зянон Пазьняк**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

*19 сакавіка 1999 г.*

## БЕЛАРУСЬ — НАШ БЕЛАРУСКІ ДОМ

***Зянон Пазьняк***

### ПРАГРАМНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАЛІТЫКІ

— Беларусь — незалежная дэмакратычная дзяржава ў Эўропе.
— Нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі, аднаўленьне беларускай школы, асьветы і адукацыі.
— Збалянсаваньне галінаў улады, павелічэньне ролі парлямэнту і ўраду. Судовая рэформа. Незалежная адвакатура; свободная (неабавязковая) сыстэма самакіраваньня, абумоўленая воляй і выбарам насельніцтва.
— Рэформа Арміі і ўнутраных войскаў. Адраджэньне Арміі.
— Стварэньне паліцыі і сістэмы законаў аб паліцыі.
— Рынкавая эканоміка зь існаваньнем дзяржаўнага сэктару ў эканамічных дачыненьнях. Рэпрыватызацыя і паўторная прыватызацыя на падставе рынкавых мэханізмаў і нацыянальных законаў.
— Рэформа сельскай гаспадаркі на аснове прыватнай уласнасьці на зямлю; рэканструкцыя калгасаў у рынкавыя гаспадаркі. Зьберажэньне працаўнікоў вёскі, кіраўнікоў, гаспадароў, арганізатараў, спэцыялістаў. Разьвіцьцё і дзяржаўная падтрымка прыватных гаспадарак.
— Фінансавая рэформа. Увядзеньне беларускага талера. Збалянсаваная манетарная палітыка, спыненьне інфляцыі і росту цэнаў.
— Шматузроўневая падаткавая сыстэма (вызваленьне ад падаткаў, льготныя падаткі; рацыянальна абумоўленыя падаткі), накіраваная на разьвіцьцё прадпрымальніцтва, узбагачэньне людзей і стварэньне сярэдняй клясы.
— Вяртаньне да нармальнага рэжыму працы беларускай дзяржаўнай мяжы і мытні. Адмена непамерных мытных пошлінаў на ўвоз і вываз замежных тавараў, якія не вырабляюцца ў Беларусі (легкавыя аўтамабілі і г.д.). Аднаўленьне свабоднага гандлю такімі таварамі.
— Сыстэма аховы здароўя з апорай на дзяржаўную (бясплатную) медыцыну. Сыстэма прафіляктычнай медыцыны. Медыцына — дзяржаўны прыярытэт. Арганізацыя прыватнай і страхавай медыцыны. Арганізацыя дзяржаўнага медыцынскага фонду.
— Заснаваньне дзяржаўнага пэнсійнага фонду. Крэдытныя і бюджэтныя адлічэньні ў пэнсійны фонд. Гарантыя дзяржаўнага пэнсійнага забесьпячэньня і выплаты пэнсіяў пэнсіянерам.
— Упарадкаваньне статусу пасьлячарнобыльскіх радыяктыўна засьмечаных тэрыторыяў.
— Экалягічнае і культуралягічнае аздараўленьне прыроды (аднаўленьне малых рэк, азёраў, мікратапанімікі, жыцьцёва важных зонаў).

**Прыярытэты ва ўнутранай дзяржаўнай палітыцы:**
Навука, адукацыя, сельская гаспадарка; навукаёмкія (электроніка, оптыка), стратэгічныя (энэргетыка) і валютапрыбытковыя вытворчасьці, сярэдняе прадпрымальніцтва (сярэдні бізнэс).

**Прыярытэты ў зьнешняй палітыцы:**
Дачыненьні з суседзямі (Украінай, Польшчай, Летувой, Латвіяй). Вектарная арыентацыя на Эўропу (краіны Эўрапейскай й Вуні і Скадынавіі).
Спыненьне дысбалянсу дачыненьняў, штучнай палітычнай і эканамічнай залежнасьці ад Расеі.
Стварэньне гарантыяў даверу да Беларусі і спрыяльнага клімату для заходніх інвэстыцыяў і тэхналёгіяў.

*15 сакавіка 1999 г.*

## ВЕСТКІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**27 студзеня галоўныя рынкі Віцебска пуставалі. Ня выйшлі на працу мясцовыя прадпрымальнікі, што гандлююць на гарадзкіх рынках. Большасьць зь іх вырашыла падтрымаць акцыю пратэсту, якую арганізавалі прафсаюзы краіны.**

Бізнэсмэны сабраліся на сход чальцоў прафсаюза прадпрымальнікаў гарадзкіх рынкаў. Невялікая зала вытворчага аб'яднаньня «Хімпляст» ледзьве зьмясціла дзьве сотні жадаючых абмеркаваць праблемы прадпрымальніцтва.

А іх, як аказалася, нямала. Гэта і слабая сацыяльная абароненасьць прадстаўнікоў малога бізнэсу, і вялікія падаткі, і высокая арэндная плата за мейсцы на рынках, і цяжкасьці, зьвязаныя з валютнай палітыкай беларускага ўрада.

Гандляры не маглі не абмінуць і мясцовые праблемы малого прадпрымальніцтва. Размова шла пра ўзаемаадносіны з адміністрацыяй абласнога спажывецкага саюза, які без уліку меркаваньняў працуючых на рынках дыктуе свае ўмовы гандлю. Шмат закідаў прагучала і ў бок падатковых інспэкцыяў.

Прадпрымальнікі паставілі перад сваімі прафлідэрамі некалькі задач. Іх вырашэньне мусіць палегчыць жыцьцё бізнэсмэнаў.

**27 студзеня не працавалі таксама прыватныя прадпрымальнікі Наваполацка.**

Бізнэсмэны абвясцілі, што ў выпадку ігнараваньня гарадзкімі ўладамі іхных патрабаваньняў, яны гатовыя пайсьці на доўгатэрміновы страйк.

**У гэты ж дзень са сваімі патрабаваньнямі выступілі прадаўцыпрадпрымальнікі аршанскага рынка.**

Яны сабраліся на мітынг пратэсту. Удзельнікі акцыі вылучілі патрабаваньні эканамічнага характару і безвынікова спрабавалі давесьці іх кіраўніцтву гарвыканкама.

**Дэмакратычныя сілы Віцебшчыны актыўна рыхтуюцца да правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў.**

Ва ўсіх галоўных гарадах вобласьці створаны выбарчыя камісіі або завяршаецца іх камплектацыя. У апошнія дні перадвыбарная праца ахапіла раённы ўзровень.

**22 з паловай мільярды рублёў выдаткавана на правядзеньне перапісу ў Віцебскай вобласьці.**

Адной толькі паперы на блянкі ўжо выкарастана трыццаць тон. 7 тысяч перапішчыкаў, інструктараў-кантралёраў, супрацоўнікаў статыстычных упраўленьняў і ворганаў улады будуць задзейнічаны падчас перапісу насельніцтва Віцебшчыны. Перапішчыкі павінны наведаць 87 тысяч дамоў. Перапіс пройдзе з 16 па 23 лютага. Аднак ужо 11 лютага перапішчыкі пачнуць цікавіцца ў жыхароў рэгіёна, у які час завітаць да іх падчас перапісу.

**Віцебскі абласны выканкам зацьвердзіў двухгадовы плян імпрэзаў па падрыхтоўцы да сустрэчы наступнага тысягодзьдзя і сьвяткаваньня юбілею хрысьціянства. Створаны арганізацыйны камітэт на чале з намесьнікам старшыні аблвыканкама Ўладзімерам Цацохам.**

Паводле намераў мясцовай улады шматлікія мерапрыемствы павінны ахапіць сфэру адукацыі, культуры і хрысьціянскія канфэсіі Віцебшчыны.

**У апошнія тыдні на Віцебшчыне да вострага дэфіцыту шэрагу харчовых тавараў дадаўся паліўны крызіс.**

На сабе яго адчулі і аўтамабілісты. Яны зь вялікімі цяжкасьцямі могуць купіць на запраўках гаручае. Дзяржаўныя АЗС абслугоўваюць кліентаў толькі з магнітнымі карткамі. Аднак, здараецца, што і празь безнаяўны разьлік вадзіцель ня можа набыць бэнзын ці дызпаліва. Пастаўкі нафтапрадуктаў рэзка скараціліся ня толькі на дзяржаўныя аўтазапраўкі. Недахоп гаруча-змазачных матэрыялаў выклікаў на нешматлікіх камэрцыйных аўтазаправачных станцыях імклівы рост цэнаў. Кошты нафтапрадуктаў ня ўсім па кішэні.

**Юрась Сьцяпанаў,**
**НРІФ «Контур-INFO»**

## НЬЮ ЁРК

21 сакавіка ў Нью Ёрку, ва Ўкраінскім Народным Доме адбылося сьвяткаваньне дня 25 Сакавіка — 81-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Імпрэза была падрыхтавана Нью Ёркаўскім аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й працягнула добрую традыцыю сьвяткаваньня Сакавіка ў рэгіёне Нью Ёрк-Нью Джэрзі, якую так годна й пасьпяхова праводзіў у апошнія гады аддзел БАЗА у Нью Джэрзі.

У першай частцы сьвяткаваньня адбылася ўрачыстая акадэмія. На яе пачатку з прывітальным словам да прысутных і ўсіх беларусоў выступілі старшыня аддзелу БАЗА-Нью Ёрк спадар Віталь Зайка, Старшыня Рады БНР спадарыня Івонка Сурвілла, старшыня галоўнае ўправы БАЗА спадар Антон Шукелойц. Былі зачытаныя прывітаньні ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускага Народнага Фронту, Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай рады у Чыкага, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Беларускага Каардынацыйнага камітэту ў Чыкага, камітэту «Вясна-96», клюбу «Спадчына» ды іншыя. Затым з рэфэратам аб 81-х угодках БНР выступіў доктар Вітаўт Кіпель. Адзначаючы тое асаблівае месца, што займае сьвята 25 Сакавіка ды ідэалы БНР у сэрцы кожнага сьведамага беларуса, выступоўца працягнуў увагу прысутных да сувязі паміж пакаленьнямі эміграцыі, высока ацаніў ролю маладых у сёньняшнім жыцьці беларускай грамады Амэрыкі й заклікаў кожнага яшчэ больш актыўна ўключацца ў беларускае грамадзкае жыцьцё з тым, каб кожны мог зрабіць свой унёсак у справу, пачатую БНР 81 год таму. Доктар Кіпель прэзэнтаваў прысутным працу «Архівы БНР, 1918-1925» у 2-х тамах, падрыхтаваную сумесна Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва і газэтай «Наша Ніва». Кніга безумоўна паспрыяе лепшай інфармаванасьці беларускага грамадзтва пра змаганьне й працу беларускіх дзеячоў — заснавальнікаў БНР, што заклалі падваліны беларускай дзяржаўнасьці.

Спадарыня А. Кузьміцкая-Шчэцька прадставіла новую песьню Сяржука Сокалава-Воюша, якую ён адмыслова напісаў да 25 сакавіка й даслаў з Прагі.

Прысутныя засьпявалі «Магутны Божа», а потым Вольга Казак выканала амэрыканскі гімн, якім і завяршылася ўрачыстая акадэмія.

Пасьля абеду, сэрваванага за сталамі ў залі, адбыўся сьвяточны канцэрт. Беларускую музыку й песьні гралі й сьпявалі А. Балотнік, Л. Кано, Валянтына Пархоменка, Вольга і Алесь Казакі. Песьні ў выкананьні нашых суродзічаў-музыкаў з захапленьнем былі сустрэтыя прысутнымі, якіх сабралося больш як сто чалавек.

Імпрэза, якую ўпершыню арганізавалі прадстаўнікі апошняга пакаленьня эміграцыі з дапамогаю старэйшых, атрымалася прыемнай й запамінальнай. З гэтай нагоды на асаблівую падзяку заслужылі спадарыні Ала Кузьміцкая-Шчэцька, Ала Орса-Романо, Рая Станкевіч, Рая Домава, Юлія й Паўло Андрусышыны, спадары Валерый Дворнік, Уладзімер Цяліца, Пётра Драбышэўскі, Марат Клакоцкі, Анатоль Тальянскі, Лявон Юрэвіч.

Таксама была выказана шчырая падзяка сп. В. Кендышу, В. Махнач, В. Яськевіч, Л. Шураку, Я. Юхнаўцу, С. Янкоўскаму, Ю. Найдзюк, якія не змаглі прыехаць на сьвяткаваньне, але ласкава даслалі грошы на яго.

**В. Зайка**

## 25 САКАВІКА

## ЛЁНДАН

Беларусы Вялікай Брытаніі ўрачыста адсьвяткавалі 81-я ўгодкі абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

27 сакавіка ў Лёндане адбылася акадэмія, прысьвечаная гэтай гістарычнай падзеі. Перад акадэміяй у царкве сьв. Пятра й Паўла а. Аляксандар Надсон адслужыў малебен за беларускі народ. Прывітальным словам адкрыла акадэмію старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі Лёля Міхалюк. Ірына Гурло прачытала віншаваньні, дасланыя з Бацькаўшчыны і ад беларусаў замежжа. Асноўны даклад зрабіў Ігар Іваноў. Павал Шаўцоў распавёў пра працу Ўраду БНР на эміграцыі. Вера Рыч прачытала свае новыя пераклады вершаў Янкі Купалы, а Юлія Нагацкая дэклямавала творы Натальлі Асеньневай.

* * *

У сярэдзіне лютага па запрашэньню Брытыйскага Ўраду ў Брытанію прыяжджаў рэжысёр вядомага фільму «Обыкновенный президент» Юры Хашчавацкі. Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі і Англа-Беларускае таварыства зарганізавала сустрэчу зь ім у Беларускім Культурным Цэнтры ў Лёндане. Пасьля прагляду фільму сп. Хашчавацкі распавёў пра стварэньне фільму, свае творчыя пляны, палітычную сытуацыю на Беларусі.

### СХОД ПАРАФІІ Ў ТАРОНЦЕ

Сёлета 13-га лютага ў таронцкім Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры адбыўся сход, які склікалі а. Юры Няпомняшчы і сябры ўправаў парафіі сьв. Кірылы Тураўскага і ЗБК. Прысутнічаў і Першы Ярарх БАПЦ арх. Мікалай.

Сьвятар а. Юры прывітаў прысутных (было каля паўсотні) і адзначыў, што сход мае інфармацыйны характар; ладная часьць прысутных удзельнікаў — суродзічы, што вось нядаўна прыехалі ў Канаду. Варта ім дапамагчы ўвайсьці ў беларускамоўны рэлігійны й грамадзкі асяродак.

Кастусь Акула, адзін з закладчыкаў ЗБК і старшыня першае ўправы, даў агульную характарыстыку беларускага рэлігійнага, грамадзкага, культурна-асьветнага жыцьця й дзейнасьці ў Канадзе за поўстагодзьдзя. Асобна апавядаў пра спробы арганізацыі школы для беларускамоўных дзетак.

Утрыманьне парафіі БАПЦ і яго разбудова-галоўнае мэта суродзічаў у Тароньце. Прывітаў прысутных і выказаўся пра заданьні БАПЦ і арх. Мікалай.

Асобна закранулі тэму цяперашняй сытуацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Згадзіліся, як і раней, дапамагаць поўнаму вызваленьню Беларусі з-пад маскоўскага ярма.

Для рэгістрацыі і здабыцьця паглядаў удзельнікаў сходу адносна нашага супольнага рэлігійнага ды грамадзкага жыцьця бальшыня прысутных адказвала на пытаньне анкеты, якую выдаў сьвятар парафіі а. Юры.

Вечар, які трываў каля 4-х гадзін, прынёс, як мяркуюць, яднаньне «старых і новых» суродзічаў ў Тароньце. Спадзяемся, што ён спрычыніцца да больш энэргічнага ўдзелу іх у беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці.

За падрыхтоўку кавы, гарбаты й сандвічаў шчырая падзяка матушцы Юлі, Надзіі Дробін, Веры Радэк і іншым жанчынам.

**К.А.**

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Каб праверыць, як пачувае сябе жывая беларуская мова на берасьцейскіх вуліцах, як рэагуюць на яе сустрэчныя, са студэнтамі ўзяліся высноўваць сваю статыстыку — дамовіліся: *адзін дзень мусіш ад раньня да вечара прагаварыць па-беларуску.* Вось вынікі гэтага дня, без падтасовак і дадумваньня. Я толькі зрабіла выбарку з найбольш цікавых студэнцкіх допісаў.

Самая тыповая сытуацыя ў нашым горадзе: пытаесься па-беларуску, а табе адказваюць па-расейску: «Раніцаю гуляла па горадзе і зьвярталася з пытаньнем, дзе знаходзіцца тая ці іншая крама. Адказы атрымлівала толькі па-расейску». «Калі я запытала на вуліцы, которая гадзіна, мне адказалі па рускай мове, не зьвяртаючы ўвагі на маю мову».

Часам выяўляецца няведаньне таго ці іншага слова. Рэагуюць па-рознаму: «Калі я спытала ў бабулі на рынку, колькі каштуе цыбуля, яна перапытала: «Што Вы хочаце?» — а потым сказала: «А-а, лук!» «Самы цікавы выпадак здарыўся ў берасьцейскім ЦУМе. Я папрасіла пашукаць мне камізэльку, але меншага памеру за тую, што на вітрыне. Прадаўшчыца паблукала вачыма па адзеньні, але не разгубілася і не прызналася, што не разумее значэньня слова ***камізэлька***. Яна запрасіла мяне да вешака з адзеньнем і прапанавала паказаць, *якога колеру мне патрэбна камізэлька.* На тым і паразумеліся». «Калі спытала, колькі каштуюць ружы, маладая дзяўчына паглядзела зьдзіўлена і перапытала, чаго я хачу. Я паказала рукою на кветкі і зноў перапытала, тады дзяўчына пераклала сама сябе: «А, розы!» «На рынку спытала ў знаёмай, што яна прыдбала. Але яна не зразумела слова ***прыдбаць***». «З сяброўкаю зайшлі ў краму і запыталі па-беларуску: «Ці ёсьць у вас сыркі з разынкамі?» Прадавец вельмі зьдзіўлена паглядзела і папрасіла, каб я паўтарыла. Разгубленая, пайшла перабіраць тыя сыркі: то возьме сырок з каваю, то з ванілінам, нарэшце, прачытала на пачку «Сырок з разынкамі» — і аж твар прасьвятлеў, як мне здалося...» «У прадуктовай краме мне давялось быць удзельніцаю цікавай сцэны. Нейкая жанчына вырашчыла купіць пачак «сливочного масла». Прадавец падала ёй пачак, дзе было напісана «сьметанковае масла». Жанчына прачытала надпіс і паўтарыла сваю просьбу. Давялося мне прыйсьці на дапамогу ды патлумачыць, што беларускае «сьмятанка» па-расейску «сливки»; таму і масла «сьметанковае». Канфлікт быў вырашаны». «Да гаспадыні, у якой кватарую, зьвярнулася па ***шклянку вады***. Яна зьдзівілася: «Зачем тебе банка?» «Зайшла ў краму. Папрасіла маладую дзяўчыну паказаць мне ***прас***. Тая паглядзела зьдзіўлена і спытала: «А что... с Украны и не знаете русского языка?»

Важна ведаць пачуваньне таго, хто загаворвае на вуліцы з незнаёмымі пабеларуску: «Пры размове сорому я не адчувала.» «Кандуктарцы ў аўтобусе сказала «дзякуй» за квіток. Тая адразу зьдзіўлена пагдядзела, а потым усьміхнулася мне.» «Неяк у аўтобусе, калі я задумалася і сама сабе сказала галасна: «Дзе тут першае месца?», шофер падказаў па-беларуску: «Вось тут першае месца». Гэта быў чалавек ва ўзросьце зь вельмі добрым тварам. І мне паверылася, што ёсьць на белым сьвеце людзі, якія хоць крышку любяць нашую мову і гавораць на ёй.» «Дзяўчына зь білетнай касы падала мне квіток і сказала: «Калі ласка, вазьміце,» Ад гэтага «калі ласка» затрымцела сэрца.» «Па дарозе ва ўнівэрсітэт з сяброўкаю ішлі па вуліцы і размаўлялі пабеларуску. На душы было неяк добра і ўтульна. Людзі, якія ішлі нам насустрач, глядзелі зьдзіўлена, нават прыпыняліся. У гэтыя дні, калі я размаўляла па-беларуску, адчула сябе неяк упэўнена, як бы знайшла тое, чаго не хапала мне. Пад такі настрой захацелася хутчэй паехаць да бабулі на Гарадзеншчыну, каб пачуць сапраўдную, мілагучную, такую дарагую майму сэрцу родную мову.» «Ведаеце, які цудоўны дзень я пражыла! Колькі ўспамінаў, пачуцьцяў, сустрэчаў! І ўсё таму, што хоць на дзень я адчула сябе спраўднаю беларускаю, што жыву на Радзіме, дзе мяне зразумеюць. І мяне сапраўды разумелі: ніхто ў вочы не пасьмяяўся, нават не пажартаваў. Я чытала ў вачах субяседнікаў нейкае зьдзіўленьне, можа захапленьне, якое было не штучнае, а сапраўднае, натуральнае.»

Здаралася, што беларуская гаворка выклікала зьдзіўленьне, а то злосьць ды непавагу: «Зайшла ў краму і па-беларуску зьвярнулася да прадаўца. У чарзе сталі ўсьміхацца, а некаторыя і перашэптвацца.»

**Валянціна Мароз, Берасьце**

(Працяг у наступным нумары)

## АРХІВАЛІІ

# БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў ПОЛЬШЧЫ: ДАКУМЭНТЫ «ЗЯЛЁНАГА ДУБУ»

**(Са збораў Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане)**

Калі яшчэ ў 1924 існавалі беларускія групы і партыі ахвочыя да супрацоўніцтва з кіраўнікамі Польскага народу, дык пачынаючы з вясны 1925 году не засталося ані воднай групы ці партыі якая хацела мець што-небудь супольнае з палякамі, не ўлічваючы, вядома, так званыя «партыі» пад кіраўніцтвам Умястоўскага, Паўлюкевіча, Вернікоўскага і Алексюка, бо ўсе гэтыя «партыі» разам узятыя ў літаральным сэнсе не налічваюць у сваім складзе разам зь сем'ямі і 18 чалавек.

Гэтыя групоўкі, што існуюць выключна на сродкі Польскага Ураду, былі створаныя самымі палякамі, калі тыя пераканаліся, што ўсе беларускія арганізацыі і партыі больш менш папулярныя сярод свайго народу канчаткова адышлі ад супрацоўніцтва з палякамі.

У дадзеным выпадку галоўнай тэмай майго дакладу ёсьць не гістарычнае праходжаньне ўсіх беларускіх партый у супрацоўніцтве з палякамі. Апошняе можа быць выкладзена па жаданьні, але толькі гістарычнае праходжаньне дзейнасьці Беларускай Сялянскай Партыі Зялёнага Дубу.

Беларуская Сялянская Партыя Зялёнага Дубу існавала яшчэ ў царскі час як палескае зямляцтва студэнцкай моладзі народжанай на Палесьсі (з 1910 году). Галоўнай яе дзейнасьцю было арганізацыя сельскіх кааператываў, зьбіраньне песень, паданьняў ды інш., што да жыцьця Беларускага народу. У часе рэвалюцыі 1917 г. Беларуская Сялянская партыя Зялёнага Дубу налічвала больш за пяць тысяч сваіх сапраўдных сябраў і пад час Усебеларускага Зьезду ў Менску з канца 1917 году і пачатку 1918 году пэўна выказалася за ўтварэньне Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі і з гэтага году партыя пачала змаганьне з бальшавікамі. Цясьнімая з усіх бакоў і не знаходзячы нідзе падтрымкі, вайсковая сэкцыя партыі навязала кантакт з наступаючым на Менск у 1919 польскім войскам (пры першым наступе палякаў у сакавіку месяцы 1919 году). Пасьля чаго ўжо пачалося зьбліжэньне вайсковых сіл Зялёнага Дубу з палякамі ў змаганьні з бальшавікамі.

Так напрыклад пры садзейнічаньні Беларускіх Партызанскіх атрадаў былі занятыя гарады: Мазыр, Слуцак, Бабруйск, Барысаў і цэлы шраг сёл і мястэчак. За дапамогу палякам Зялёны Дуб атрымаў абяцаньне атрымаць для Беларусі шырокую аўтаномію. Трэба адзначыць, што свае абяцаньні палякі толькі тады пачыналі часткова выконваць, калі справы на фронце горшалі і іх войска цярпела паразу, але як толькі справы на фронце папраўляліся, так усе абяцаньні і «свабоды» сыходзілі да нуля. Так, напрыклад, Таварыству Беларускага Мастацтва ў Менску была выдадзена субсыдыя і дазвол на пастаноўку ўсіх п'ес, забароненых раней палякамі, як раз ў той час, калі атрады З.Д. на чале з Семенюком і Монічам вызначыліся ў баях на рацэ Бярэзіна.

Яшчэ да перамір'я бальшавікоў з палякамі можна было спадзявацца, што палякі датрымаюцца свайго абяцаньня ў дачыненьні хоць бы часткова зьдзяйсьненьня дамаганьняў беларусаў, але пасьля перамір'я і на канец заключэньня Рыжскай дамовы палякі рэзка павярнулі фронт і першыя іх удары былі скіраваныя супраць атрадаў З.Д., што знаходзіліся на польскай тэрыторыі. Напрыклад, у раёнах Лунінца, Баранавічаў, Маладэчні і Вілейкі (маёнтак Навасёлкі), Кажан Гарадок, Лунін, Бор, Нясьвіж, Чучэвічы, Ганцэвічы, Пінск, Стоўпцы, Ракаў, Радашкавічы, Уша Датлаўская, Хацэнчыцы, Ільля, Лебедзева, сяло Маркава, Блошнікі, Глыбокае, Падвільле, Загацьце, Докшыцы, Даўгінава ды інш.

Партызанскім атрадам З.Д. было прапанавана альбо раззброіцца ды пайсьці за калючы дрот альбо пакінуць межы польскае дзяржавы не пазьней за 15 лістапада 1920 году, і калі гэта было не датрымана, тады па загадзе камандзіра 18-ай дывізіі ген. Краеўскага быў высланы 33-ці пехотны полк для раззбраеньня атрадаў З.Д. Полк павёў наступ ланцугамі на вёску і маёнтак Навасёлкі, дзе знаходзіліся атрады З.Д. пад камандай капітана Караткевіча, капітана Белякова, ротмістра Лебедзева, акругавага атамана Крэчата, капітана Морывы і паручыка Чадая. Але першая спроба раззброіць атрады скончылася для палякаў поўнай паразай; полк кінуўся на ўцёкі, кінуўшы стрэльбы і кулямёты. Пасьля гэтага выпадку ў Галоўны Штаб Бел. Парт. Атр. З.Д. у м. Лунінец прыбыў паручык польскага Ген. Штабу Станіслаў Блонскі, які павёў перамовы з З.Д. Пасьля пяці дзён перамоваў было дамоўлена, што 1) Галоўнаму Штабу З.Д. было дадзена права знаходзіцца на польскай тэрыторыі і кіраваць усімі апэрацыямі па барацьбе атрадаў З.Д. з бальшавікамі. 2) Былі вызначаны пункты, дзе З.Д. мог мець свае базы па забесьпячэньні атрадаў амуніцыяй і правіянтам; такіх пунктаў было пяць: Глыбокае, Маладэчня, Нясьвіж, Люшча і Лунінец. 3) За дастаўленыя інфармацыю і дакумэнты пра стан чырвонай арміі і дадзеныя пра бальшавіцкую работу польскі Ген. Штаб абавязваўся, вядома не галосна, як кажуць палякі (nalewo), дастаўляць у вызначаныя пункты зброю, падрыўны матар'ял, правіянт і забясьпечваць тых, хто знаходзіцца на базах, сваімі дакумэнтамі.

Такая сумесная праца працягвалася да сакавіка 1922 году, калі палякі інтэрнавалі галоўны штаб З.Д.

Гэтым інтэрнаваньнем і цэлым шэрагам правакацыйных выдач бальшавікам работнікаў З.Д. на тэрыторыі Савецкай Беларусі (так напрыклад, былі выдадзены палякам і растраляныя З.Д. Мар'я Даўгір-Краўчук, Георгі Крывашэйн, Паўлаў, Караткевіч, Бакка, Белякоў, Лебедзеў, Ласун, Крук-Палескі, Самусевіч ды інш.), палякі моцна падарвалі давер да сябе партыі З.Д., і з гэтага моманту пачынаецца поўнае ахалоджаньне да польскіх абяцаньняў, і Зялёны Дуб пачынае працаваць з палякамі ўжо да тае ступені, пакуль гэта выгадна для існаваньня ідэі незалежнасьці Беларусі. Як на фактах ахалоджаньня Зялёнага Дубу да палякаў укажу на спробу ўзнаўленьня сувязі для сумеснай працы з Саюзам Беларускіх Стралкоў на чале з Атаманам Хмарам – Вячаславам Разумовічам, які працаваў у кантакце з Летувой супраць Польшчы.

Пасьля — ўдзел Зялёнага Дубу ў байкоце выбараў у Віленскі Сойм у 1921 г. і правал арганізацыі Аляксюка "Ednosc".

У верасьні 1922 году палякі ўзнаўляюць кантакт з Зялёным Дубам і прапануюць зрабіць налёт на мястэчка Мерыч, дзе знаходзіўся Галоўны Штаб Саюзу Беларускіх Стралкоў. Прапанова была зроблена капітанам польскага Гэнэральнага Штабу Таранкевічам, паручыкам Блонскім, рэфэрэнтам Жабелем і Зацвіліхоўскім — апошні ж і зьліквідаваў пазьней згаданую прапанову, таму што палякі спалохаліся, што Зялёны Дуб, злучыўшыся з Саюзам Беларускіх Стралкоў, пачне сумесныя дзеяньні супроць Польшчы і прапаноўвалі яе адтэрмінаваньне. Зялёнаму дубу было прапанавана падтрымаць палякаў на выбарах у Варшаўскі Сойм, за што была паабяцаная аўтаномія Беларусі і (выкананьне) правядзеньне ў жыцьцё праграмы Зялёнага Дубу.

Партыя зноў мабілізуе свае сілы і пачынае інтэнсыўную падрыхтоўку да выбараў, выпускае заклік да Беларускага Народу № 1. Але не пачаліся яшчэ выбары, як палякі парушылі дамоўленасьць, у якой было ўказана, што Архіяпіскап Еляўферый, япіскап Уладзімір і япіскап Панцеляймон застануцца на сваіх месцах. Усе згаданыя япіскапы былі ўвязьненыя ў каталіцкіх кляштарах і потым выселеныя за межы дзяржавы. Гэты факт прывёў да таго, што Зялёны Дуб зьняў з галасаваньня свае сьпісы і негалосна дапамагаў Блёку нацыянальных меншасьцяў.

У 1924 годзе палкоўнік Грабоўскі ад імя Польскага Гэнэральнага Штабу зноў робіць прапанову дапамагчы ліквідаваць бальшавіцкі рух у Палескім ваяводстве, галоўным чынам ліквідаваць дыверсійную банду, якая адлупцавала ваяводу ды іншых палякаў каля станцыі Парахонска недалёка ад Лунінца, за што было абяцана ізноў даць дапамогу атрадам Зялёнага Дубу, якія дзейнічалі супроць бальшавікоў на тэрыторыі Савецкай Рэспублікі (Беларусі) Галоўны Штаб Зялёнага Дубу прыбыў у Лунінец у кастрычніку 1924 году і спыніўся на Старасельскім завулку ў доме № 8 ці 10 пад выглядам Камітэту Беларускіх Спраў. Але як толькі былі ліквідаваны Зялёным Дубам усе бальшавісцкія дыверсійныя банды, палякі пачалі правакаваць Зялёны Дуб і Галоўны Штаб. 15 сакавіка 1925 году Зялёны Дуб вымушаны быў выехаць з Лунінца, каб пазьбегнуць арышту.

З гэтага году партыя З.Д. пачынае ўжо канчаткова працаваць супроць палякаў, вядома, не дэманструючы гэтага, бо польская тэрыторыя служыла галоўнай базай пры сувязі Галоўнага Штабу З.Д. са сваімі атрадамі, што дзейнічалі супроць бальшавікоў на тэрыторыі Савецкай Беларусі.

Польскі ўрад, будучы ўпэўнены, што Зялёны Дуб заняты выключна работай супраць бальшавікоў, не выключаў магчымасьці прадаставіць сябрам З.Д. працу ў сваіх разьведкавых інстытуцыях. Так што на дадзены момант для З.Д. пляны і задумы палякаў да Летувісаў ня ёсьць вялікім сакрэтам, так, напрыклад, З.Д. напэўна вядома, што на тэрыторыі Віленскага ваяводства фармуюцца асобыя стралковыя дружыны, якія ўваходзяць у склад арганізацыі "Strzelcow Pilsudskiego". Гэтыя арганізацыі стралкоў галоўным чынам сканцэнтраваны ў Вільні, Сьвяньцянах, Бездоках, Мойшагодзе і Троках, для большай кансьпірацыі дружыны гэтыя зачастую ўваходзяць у склад так званай "rezerwy policyjnej" або "Kompanja Zbiorowa Wojorowa". У Вільні, напрыклад, пры З[ялёным] бат.[альёне] сапёраў знаходзяцца дзьве роты такіх стралкоў. Апроч таго зборнымі пунктамі па забесьпячэньні зброяй стралкоў ёсьць маёнтак Бяндзены, маёнтак Мойшагода і староства ў г. Сьвянцяны. Зброя складзена ў камадзе "Powiatowa Komanda Policyjna".

На чале стральцоў падрыхтаваных для барацьбы за скарэньне Ковенскай Летувы стаіць генерал Рыдзь-Сьміглы, маёры Кіртікліс, Мєйер, капітаны Квяцінскі, Томчын, маёр Дуць, супрацоўнікі польскай палітычнай паліцыі Навакоўскі, Васілеўскі, Кудзевіч, чыноўнікі ваяводзтва Някраш, тайны агент ваяводства Лацца-Старжанецкі, штабны вахмістр Міхаіл Чарнецкі, які кватараваўся ў маёнтку Штабоны, ён жа начальнік разьведкі на Летуву з маёнтка Майшагала.

Яшчэ ў 1926 годзе два партызаны, якія жылі на С. Завулку ў г. Вільні ў доме № 6, кватэра 5, атрымалі на рукі стрэльбы сыстэмы Маўзэра. Прозьвішчы партызан стралкоў Пётр Збатакевіч і Адам Рамкевіч. Стрэльбы зараз схаваныя на гарышчы азначанага дома над кв. № 5.

Заканчваючы гэты даклад я ад імя Цантральнага Выканаўчага Камітэта Беларускай Сялянскай Партыі Зялёны Дуб прапаную для выкрыцьця ўсіх тайных польскіх задум як супроць Летувы так і іншых, вядомых Зялёнаму Дубу, памагчы выпускаць друкаваны ворган для апублікаваньня ўсіх дакумэнтаў, што знаходзяцца ў распараджэньні Галоўнага Штабу Зялёнага Дубу.

Упаўнаважаны Цантральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай Сялянскай Партыі Зялёны Дуб
Адамовіч Вячаслаў – Дзяргач

27-2-1929
сьв. Г. Данцыг

**Пераклад Алесі Сёмухі**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя дзякуе за дасланыя матар'ялы Ул. Губскаму, Р. Жук-Грышкевіч, А. Маркевічу, П. Новікаву, В. Рамук, Ю. Сьцяпанаву, М. Швэдзюку, Ю. Найдзюк.

# ПІСЬМЕНЬНІКІ НА ЭМІГРАЦЫІ

Што мы ведаем пра сваіх пісьменьнікаў? Рыгор Данілсўскі, сьляды якога губляюцца недзе ў Новай Зэляндыі; загадкавы паэт Янка Палонны — невядомыя ня толькі ягоны лёс, але й сапраўднае прозьвішча; празаікі Янка Шакун, В. Грэскі; Г. Паланевіч, што пісаў пад псэўдонімам Г. Няміга; Алесь Віхор, вершы якога часта друкаваліся на старонках часапіса «Аб'еднаньне»; адзін з аўтараў «Песьняроў Случчыны» Арыстарх Крот. Ды й ці ведаем мы ўсіх?

Зьміцер Алесіч. Сапраўднае імя й прозьвішча — Зьміцер Сямёнаў. Нарадзіўся ў 1925 г. Памёр у 1986. Дапамагаў Антону Шукелойцу ў працы музэя на Беларусі ў часы вайны. Друкаваўся ў скаўцкіх часапісах, у газэце «Бацькаўшчына». А. Адамовіч рэдагаваў ягоныя творы.

Янка Ліманоўскі. Здаецца, вядома імя, яшчю з даваенных часоў, на эміграцыі пэўны час быў дырэктарам БІНІМ. З найбольш вядомага, што напісаў у ЗША, — вялікі артыкул пра Янку Купалу, які выдрукаваў ва ўкраінскай газэце (а мсўся быць прадмоваю да Купалавай «Спадчыны»). У 1983 г. Ліманоўскі жыў у доме для пэнсыянэраў на дзяржаўным утрыманьні. Кватэра была на восьмым паверсе, таму амаль што не выходзіў на вуліцу, сасьлеп на адно вока, але й другім чытаць ня мог. Да апошняга дня хацеў перавыдаць сваю кнігу «Над абрывам». Але калі ён наступіў, той апошні дзень?

Сымон Жамойда. У 1948 годзе быў запрошаны Ю. Віцьбічам у літаратурнае згуртаваньне «Шыпшына». «Мушу зазначыць, — пісаў ён у адказ, — што творы мае вельмі слабыя, я яшчэ з тых пачынаючых. Праўда, у час вайны беластоцкая газэта «Новая дарога» друкавала ў двух нумарах разсказ пад псэўданімам Сымон Жук. На жаль, мне не прышлося іх пабачыць, бо ў той час сядзеў за кратамі. Наступна друкавала бэрлінская газэта «Беларускі Работнік» разсказ «Васілёва самагонка». У даваенны час часта зьмяшчаліся разсказікі ў «Пралесках» — спэцыяльны часапіс для дзяцей, які выходзіў у Вільні». С. Жамойда напісаў апавяданьні «Банкнот», «Страх», »Як сьмяюцца ў Малінкавічах», «Малітва мацеры Грамніца», «Буслы», «Справядлівы суддзя», «Ост».

Добра вядомы Уладзімер Случанскі, аўтар гістарычнага раману «Драбы». Але й ягоны бацька, Сьцяпан Шнэк, таксама пісаў — у газэты «Беларускае Слова», «Бацькаўшчына», падпісваўся Янка Нясьцерпны. Жыў некаторы час у Францыі, дзе ягоныя сыны працавалі ў шахтах.

У Аўстралію прыехаў 12 траўня 1950 г. Зарабляў С. Шнэк на тыдзень 7 фунтаў 11 шылінгаў. Зь іх падатак 8 шылінгаў і 9 пенсаў. За гатэль 2 фунты і 12 шылінгаў і 6 пенсаў, за гатэль жонкі — нейкі час жылі асобна, бо працавалі ў розных месцах — 2 фунты 2 шылінгі і 5 пенсаў. За падарожжа на працу і з працы 15 шылінгаў (каля 35-40 км). Заставалася на сябе 1 фунт 12 шылінгаў і 4 пенсы. Толькі адно месца для пабудовы доміка каштавала 150-200 фунтаў. Працаваў на лесапілцы разам с зкладам будаўнічых драўляных матэрыялаў. Паступова ахоплівала роспач.

У 1952 г. здарылася трагедыя: С. Шнэк зьбіў жонку, якая ў вельмі цяжкім стане апынулася ў бальніцы, а сам скончыў жыцьцё самагубствам.

У Аўстраліі апынуўся й Янка Ролсан. Пра яго вядома крыху болей, дзякуючы кнізе мэмуараў «З глыбінь мінулага», выдадзенай у Адэляідзе ў 1984 г. Я. Ролсан напісаў прынамсі яшчэ дзьве кнігі: «Паэму пра Міхася і Ахрэма» ды зборнік вершаў «Кліч» (1980). Абедзьве кнігі таксама выдадзеныя ў Аўстраліі.

Чакаюць на сваё месца ў гісторыі беларускай літаратуры Л. Акіншэвіч (Вароніч), М. Багун (В. Шчэцька), В. Вір, Вярбіна, П. Звонны, Р. Карнасэвіч, А. Клёнаў, Ул. Лазарэвіч, Н. Раса (Н. Абрамчык), Ул. Сноп (Ул. Рыжы-Рыскі), Я. Сокал, А. Чэмер (Анішчык), С. Шаўцоў ды іншыя.

І гэта толькі некаторыя імёны, якія адначасова й пашыраюць нашае ўяўленьне пра літаратуру на эміграцыі, і сьведчаць пра нашае няведаньне яе.

**Л.Ю.**

*Сучасная літаратура беларускага замежжа*

## МАКСІМ ШЧУР

*Зь ім мы пазнаёміліся ў калідорах радыёстанцыі «Свабода», а працягнулі знаёмства ў невялічкай півярні, дзе зьбіраюцца праскія анархісты. На той вечар была запляналава імпрэза — апавяд пра Беларусь, яе гісторыю, сёньняшнія палітычныя падзеі. Слухачамі былі маладыя месьцічы, усе прыкладна аднаго веку, а вось сярод прамоўцаў — Юрка Станкевіч, адзін з самых паважных беларусаў Прагі. Прыемна зьдзівіла, што ня толькі ён, але й маладыя эмігранты-беларусы гаварылі па-чэску. На сустрэчу, якая расьцягнулася на дзьве гадзіны, праская моладзь даволі жыва рэагавала на выступы прамоўцаў. Па ўсім было бачна, што яна ўжо забылася на надалёкае мінулае сваёй рэспублікі, і падзеі на Беларусі ўспрымае як нешта малаверагоднае, прынамсі, тое, што зь імі здарыцца ніколі ня можа.*

*Па заканчэньні імпрэзы мы з Максімам яшчэ доўга гаварылі — пра яго, 22-х гадовага хлапца, які апынуўся на эміграцыі, пра сям'ю, што засталася ў Менску, пра тое, што ён думае далей рабіць, дзе вучыцца. Ужо напрыканцы ночы, развітваючыся, ён паказаў вершы, што чакаюць свайго часу ў рэдакцыях «Нашай Нівы» і «Архэ». Адзін зь іх мы й прапануем чытачам з надзеяй, што гэта толькі пачатак знаёмства з новым беларускім паэтам.*

***Л.Ю.***

### АМФІТЭАТАР

**Зь нізкі «Прамова»**

**Апакаліпсіс Заўтра (блазан-прамоўца):**

Калі большасьць зьменіцца ў безаблічнасьць,
разьбяруць злачынцы рызьзё ахьвяр,
і іх вочы пяшчотным жалем заблішчуць,
і раптоўна выраз набудзе твар,

і хто ведаў, што край, але край, палову
аддасьць, і адмоўчыцца той, хто брэх,
галаву на адсек, што ня сек галовы
дацьме кат, і сьвятар абвясьціцьме грэх

несьмяротным, і той, хто памерлых ганіў
прабачэньня папросіць у іх, і той,
хто жанчыну са сьцягам зьбіваў нагамі
раптам зробіцца хворым і сіратой;

той, хто выдаў, скажа, што і ня ведаў,
той, хто біў у грудзі, скажа, «дышаць ня мог
тым паветрам,», ці «костку глынуў за абедам»,
а сабака, што быў нацкаваны, здох;

хто цьвіліўся і хто паціскаў плячыма,
хто сьцьвярджальна ківаў, хто нібыта спаў,
калі маці ў ложку была з айчымам,
хто меў безьліч іншых сур'ёзных спраў,

хто шчытом ахоўваўся ў калатнечы,
хто сьвядома нішчыў і хто ілгаў,
хто з-за кожнага шэляга ўмольна кленчыў
зразумеюць раптам, што ўжо ільга.

«Падманулі! Прымусілі! Хто быў супраць? —
Анікога! А што нам было рабіць?»
так сама за сябе прамаўляцьце сутнасьць
людства, часткай якога прыйшлося быць,

і сьлінавыя рты бяз зубоў будуць раны
Хрыстовы лізаць яшчэ тым языком,
якім іхны заступнік, супольна абраны,
падціраў сабе зад, калі сраў на закон,

і загойсаюць гадамі ў Боскае маткі
пад нагамі па гэтай зямлі сьвятой,
на якой яны набрыдзь, а не нашчадкі,
ані колішні гай, але сухастой,

і звычайным для іх прыніжэньня коштам
яны літасьці вымагцімуць з Тваіх
вуснаў, Божа. Не даруй, нізавошта,
ніколі
нічога
нікому зь іх.

## З ДРУКУ ЗАМЕЖЖА

**На выдавецтва Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Беларускі Харытатыўны Фонд (Лёндан) | $2.500 |
| Др. А. Романо | 1.000 |
| В. і З. Кіпель | 1.000 |
| Л. і А. Брылеўскія | 250 |
| Ф. і В. Бартуль | 200 |
| М. Занковіч (Францыя) | 200 |
| М. і В. Сьнежкі | 100 |
| В. Кажан | 120 |
| Др. М. Смаршчок | 100 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| Ю. Васілеўскі | 10 |
| М. Сагановіч | 120 |

* * *

Газэта «Беларус» выказвае шчырую падзяку сп-ству Веры і Франьцішку Бартулям за ахвяраваньне ў суме 320 дал. з урачыстага адзначэньня круглых угодкаў Ф. Бартуля.

Выйшаў чарговы нумар «Царкоўнага пасланца». У нумары «Успамні аб Саборы ў Канстанцы» Ганны Войтанка, артыкул В. Зайкі «Бізантыя й Беларусь», рэдакцыйныя матар'ялы «Падробленая памятка і іншыя падманы», «Сьв. міра й ягонае прыгатаваньне». Але найбольшую ўвагу прыцягваевялікі артыкул Я. Сланімца пра архіяпіскапа Васіля Тамашчыка (1900-1970) — на сёньня гэта найбольш поўная інфармацыя пра жыцьцё й дзейнасьць аднаго з выбітных нашых дзеячаў, што стаяў ля вытокаў аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, стварэньня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, іншых паважных спраў на эміграцыі. Складаючы падзяку аўтару артыкулу, зычым рэдактару выданьня хутчэйшага выздараўленьня й далейшай памыснай працы на агульную карысьць у імя Незалежнай Беларусі.

## ЗЬ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ

*Амэрыканская Дапамаговая Адміністрацыі (АРА — American Relief Administration), дзяржаўная праграма па аказаньню дапамогі ахвярам Першай Сусьветнай вайны, была створаная 24 лютага 1919 г. Такім чынам, сёлета — 80-я ўгодкі дзейнасьці гэтай дабрачыннай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі. Яе гісторыю дасьледавала Алеся Кіпель; вынікам росшукаў сталася напісаньне навуковае тэзы, артыкулаў у «Запісах БІНІМ», выступах на канфэрэнцыях. Але, натуральна, далёка ня ўсё з сабранага матар'ялу было выкарыстана. Ніжэй друкуюцца выцемкі зь лістоў-успамінаў да А. Кіпель, якія распавядаюць пра яшчэ адную старонку беларуска-амэрыканскіх дачыненьняў.*

**Натальля Орса:** «Мае веды пра АРА былі й ёсьць вельмі бедныя дзякуючы таму, што я была ў такім веку, што не маглы ўспрыняць розумам. Акрамя таго, гэтая акцыя ў нашай мясцовасьці ды, я думаю, па ўсёй Заходняй Беларусі была вельмі слабая, бо яе пераняці палякі ды рабілі, што хацелі, і толькі на сваю карысьць, хоць дапамога прызначалася для людзей, што пацярпелі ад вайны й галадалі, а гэта быў наш беларускі народ, але ніяк не палякі, што прыйшлі на нашыя зямлі як акупанты.

Дзякуючы таму, што вайсковыя падзеі адбываліся не на карысьць Расеі й фронт набліжаўся, то людзі пачалі пакідаць свае хаты і ехаць далей ад фронту ў глыб Расеі, хоць бальшыня аставалася на мясцох. Нямецкае войска як прыйшло, то пачалі выселяць людзей і адпраўляць далей ад фронту ў Гародзенскую губ., асабліва тых, чые будынкі больш надаваліся для войска або былі заблізка да вайсковых аб'ектаў. Нашая хата была на ўзбочы, трохі далей ад вёсак, але й нашыя будынкі дапасавалі да свайго ўжытку, а бацьку з малымі дзецьмі вывезьлі ў Гародзенскую губ. Я ўсю вайну жыла ў Маскве са старэйшаю сястрою, і мы нічога ня ведалі пра лёс бацькі. Як толькі скончылася вайна, я вярнулася дадому, але нікога не знайшла — стаяла толькі хата без вакон і без дзьвярэй. Затрымалася ў дзядзькі. Праз два тыдні вярнулася некалькі сем'яў, што таксама былі выселеныя, а зь імі й тата зь дзецьмі. Адразу пачалі рыхтаваць хату: пазабівалі вокны дошкамі, адно вакно дзядзька выняў са свае старое хаты, дзе стаялі авечкі, і ўставіў нам; сусед прынёс дзьверы. А цяпер спаткаліся мы з горам-бядою, але ня толькі мы, а ўсе тыя, што былі вывезеныя. Людзі вярталіся на сваю котліну, а ўсе было зьнішчана, разбомблена, разрабавана, будынкі зьнішчаны, зямля зарасла лесам, зарабіць няма дзе. Пачаўся страшэнны голад. Людзі падалі мёртвыя на вуліцах, паміралі ў хатах. Я асабліва баялася сустракацца з апухшымі — такія гаварылі з табой нармальна й тут-жа маглі ўпасьці мёртвыя. І вось у такі страшны час пачалі пагаворваць, што Амэрыка прысылае дапамогу галадаючым. Усе ўзрадаваліся, пачалі чакаць дапамогі, і гэта надзея дадавала нам сілы, але рэчаіснасьць была не такая мілая, як спадзяваньні, і зь ёю мы хутка сустрэліся.

Мы належалі да Нягнявіцкай гміны, да якой належала яшчэ некалькі вёсак і мястэчка. Гэтая мясьціна была, бадай, самая багатая на інтэлігэнцыю, але апынуўшыся ў паласе фронту, была вельмі беднай матар'яльна. Найбольш было настаўнікаў, якія страшна перажывалі людзкі голад і мор. Яны сабраліся, абгаварылі справу дапамогі й склікалі сход, які выбраў дэлегацыю й даручыў ёй гэтую справу. Дэлегацыя ў ліку трох чалавек выехала ў Навагрудак, а пад вечар пачалі зьбірацца людзі, сустракаць «дапамогу». Якое-ж было расчараваньне й горач на тварах няшчасных галодных людзей, калі яны пабачылі прывезенае! Некаторыя адразу разышліся. Пры падзеле ніхто не спрачаўся й не дамагаўся нічога — самі пастанаўлялі, разьмяркоўвалі й важылі. Некаторыя атрымалі 1 фунт сала ці кубачак цукру, а некаторыя паўфунты — у залежнасьці ад сям'і. Але й гэтай мізэрнай колькасьці на ўсіх не хапіла. Праз некалькі дзёны паехалі зноў і прывезьлі трохі вопраткі, а з прадуктаў нічога. На пратэсты з боку нашае дэлегацыі аб несправядлівасьці заявілі, што прыслана ўсё для палякаў, а яны зрабілі ласку, што далі гэтае, а як будзеце крычаць, то яны знойдуць спосаб заспакоіць. Пасьля такой пагрозы дэлегаты папрасілі звольніць іх ад гэтага абавязку, і на гэтым дапамаговая акцыя закончылася.

Дапамога была, але наш народ яе не атрымаў, а атрымала польская ўлада».

**Р. Жук-Грышкевіч:** «Калі я ўступіў у Віленскую Беларускую Гімназію ў 1920 г., у Вільні былі значныя цяжкасьці з прадуктамі, асабліва для беларускіх дзяцей і моладзі, што прыехалі зь вёскі, каб вучыцца ў сваёй гімназіі. Польска-бальшавіцкая вайна была тады ў поўным разгары, і сувязі зь вёскай амаль ня было. Бальшыня вучняў жыла ў гімназіяльным інтарнаце, дзе мела кватэру й харчаваньне, якое ў значнай меры паходзіла з амэрыканскіх крыніцаў. Зрэшты, усе віленскія школы карысталі з гэтых крыніцаў. Карміла пераважна зацірка з пшоннай мукі. Карміла нас найчасьцей спадарыня Арсеньнева, матка нашай слаўнай паэткі. Можа дарэчы будзе таксама ўспомніць, што амэрыканская ІМКА вельмі шмат дапамагала беларускаму грамадзтву й вучням беларускіх гімназіяў у Радашкавічах і Клецку. Некаторыя беларусы зьблізіліся з гэтай арганізацыяй, супрацоўнічалі з ёй, а былі такія, што праз гэтае супрацоўніцтва сталіся пратэстанцкімі сьвятарамі.

**Ч. Будзька:** «У 1920 г. я вучыўся ў беларускай гімназіі ў Вільні. Фактычна я вучыўся не ў самой гімназіі, а ў прыгатаваных клясах. Гімназія наша атрымлівала ад амэрыканцаў некаторые харчовые продукты, якімі нас падкармлівалі падчас вялікага перапынку. Найлепш помню салодкі рыс, які мы атрымоўвалі кожны дзень. Раз на тыдзень давалі какао з булачкамі.

Помню й саміх амэрыканцаў. Аднойчы нам паведамілі, што за дзень гімназію адведаюць амэрыканцы. З гэтай прычыны трэба было прынесьці амэрыканскія сьцяжкі. Помню, як я бегаў па горадзе, хочучы гэтыя сьцяжкі купіць, але дарэмна. Урэшце трэба было іх рабіць самому, наклейваючы чырвоныя пасачкі на белую паперу. Найбольшай пры гэтым праблемай было тое, што ніхто з нас ня ведаў, колькі гэтых пасачкаў трэба было наклеіць.

На другі дзень мы ўсе сабраліся ў гімназіяльнай залі, увайшло некалькі амэрыканцаў, сталі перад намі, паглядзелі на нас, мы памахалі амэрыканскімі сьцяжкамі, і на гэтым ўсё скончылася.

Перад тым, як прыехаць у Вільню, я жыў у Будславе. Там таксама была беларуская гімназія й там таксама дакармлівалі вучняў.

У Вільні ў тыя часы існаваў беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны, на чале якога стаяў кс. Адам Станкевіч, які таксама кіраваў прытулкам. Помню яшчэ адно імя — Мітрафан Кепель. Ён займаўся беларускімі ўцекачамі, якія пражывалі ў часе вайны ў Расеі. Ён езьдзіў у Расею, вышукваў іх і прывозіў да хаты.

Асобная ўвага належыцца амэрыканскім протэстантам. Яны пры беларускіх гімназіях у Вільні, Наваградку, Клецку ўтрымоўвалі інтарнаты, дзе жылі беларускія гімназісты. Яны таксама фінансавалі беларускі часапіс «Родныя Гоні», які рэдагавала Марыя Станкевіч, і Гальяна Леўчыка («Божая Ліра»).

Прыехаўшы ў Чыкага, я бачыў ліст кс. А. Станкевіча да ірляндзкага біскупа ў Амэрыцы, у якім прасілі аб помачы для беларускай моладзі. Пад лістом было некалькі дзесяткаў подпісаў, а сярод іх В. Тумаша й Ст. Станкевіча. Ліст быў пісаны ў беларускай мове. Біскуп даў гэты ліст для перакладу а. Тарасевічу.»

## НОВЫЯ КНІГІ

У выдавецтве «Рунь» пабачыла сьвет кніга ўспамінаў беларускага грамадзкага дзеяча ў Аўстраліі **А. Алехніка «Пад бел-чырвона-белым, Memento patriam»** (224 старонкі, шмат архіўных фотаздымкаў. Наклад 450 асобнікаў). Атрымаць кнігу можна даслаўшы іменны чэк на $10 на Паўлу Саўчанку (Pavel Savcenko) на адрас: Lithuania, 2001 Vilnius, Zygimontu, 12-3.

Цяпер у гэтым выдавецтве рыхтуецца да выданьня кніга прозы, паэзіі, успамінаў яшчэ аднаго беларускага пісьменьніка з Аўстраліі — Сымона Шаўцова.

**Георгій Колас. Карані міфаў. Жыцьцё і творчасьць Янкі Купалы. Менск, 1998.** Лепш за ўсё пра такую неабходную нам усім кнігу, патрэба якой даўно вычувалася, сказаў сам аўтар (1929-1994) у невялікай прадмове: «Галоўная задача аўтара — настроіць чытача на самастойны пошук ісьціны, не прымушаючы яго пасыўна верыць «навізьне» сваіх адкрыцьцяў. Аўтар прымушае сябе быць перш за ўсё «добрасумленным вучнем» — навучыцца мысьліць самастойна, праз супастаўленьне гістарычных фактаў, праз аналіз «запісаў», без рытарычных воклічаў. Аўтар хоча задаваць мінуламу пытаньні. Першым і галоўным суразмоўнікам для чытача павінен стаць сам Купала, але ж і Купалавы адказы на пытаньні — не заўсёды ісьціна, а толькі стымул да супастаўленьня і аналізу». Кніга заўчасна памерлага дасьледчыка выдаў за свой кошт ягоны сын — добра вядомы ў нашых асяродках Зьміцер Колас.

Кнігу можна замовіць у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва. Кошт $15.

У Менску выйшла кніга **Лявона Юрэвіча «Камэнтары» (1999). Пасьлямоўе Ул. Конана. Мастак Артур Клінаў.** У яе ўключаны артыкулы, прысьвечаныя гісторыка-мітагічнай прозе, творчасьці Янкі Юхнаўца, Алеся Салаўя, Рыгора Крушыны, зьмешчаныя невядомыя матар'ялы пра а. Пётру Татарыновіча, Міхася Міцкевіча (А. Галіну), Ларысу Геніюш, «Баявую Ўскалось», а таксама дасьледаваньні з гісторыі беларускай лексікаграфіі, тэатра й драматургіі на эміграцыі.

**Агледзіны. Вершы беларускіх паэтаў. Мінск, 1998 г.** Кніга, укладзеная маладым паэтам з Баранавічаў Алесем Бакачом, уяўляе сабой своеасаблівую паэтычную анталёгію, дзе паэзія 1980-1995 гадоў прадстаўлена 170 паэтамі — і такой самай колькасьцю вершаў. Справа ў тым, што ўкладальнік з творчасьці кожнага паэта выбраў па адным вершы згодна, як піша ён у невялічкай прадмове, са сваім крытэрыем мастацкай вартасьці. Атрымаўся калі не партрэт беларускай паэзіі, дык прынамсі партрэт самога ўкладальніка, плён працы якога можна праілюстраваць адным зь вершаў анталёгіі — Міхася Мірановіча «Абы што»:

*Нас абы-хто*
*Абы-куды вядзе,*
*І абы-што*
*Мы робім абы-як.*
*І вось таму мы зараз —*
*Абы-дзе,*
*І нам адтуль*
*Ня выбрацца ніяк.*

**Юрий Володімірович Шевельов. Матеріялы до бібліографії. Укладальнік Леў Чабан і Андрій Даніленко. Нью Ёрк, 1998 г.** Пад шыльдамі Ўкраінскай Вольнай Акадэміі Навук у ЗША, Нацыянальнай Акадэміі Навук Украіны, Інстытута Літаратуры імя Т. Шаўчэнкі на 90-я ўгодкі выдатнага ўкраінскага вучонага была выдадзена бібліяграфія ягоных працаў. Гэтая кніга ўяўляе немалую цікавасьць і для нас, бо Ю. Шэвялёў (Шэрах) — аўтар такіх прац, як «Беларускі самвыдат у абароне нацыянальнай годнасьці», "Belorussian and Ukrainian", "Belorussian-Ukrainian linguistic contacts", "Belorussian versus Ukrainian: Delimitation of Texts before AD 1569", "Problems in the Formation of Belorussian", "The Literary Languages of the Ukraine in the Fifteenth and Sixteenth Centuries and the Delimitation of Ukrainian and Belorussian Texts" ды іншых.

**ВІНШУЕМ!**

спадарства **КІМ і КОЛЮ РОМАНО** ды
д-ра **АЛУ ОРСА-РОМАНО**
з нараджэньнем дачкі і ўнучкі Алівіі

**ВІНШУЕМ!**

**ШАБУНЯЎ ВОЛЬГУ Й СЯРГЕЯ**
з нараджэньнем сына Мікіты

**ВІНШУЕМ!**

15 сакавіка спаўняецца 75 год грамадзкаму дзеячу
**МІХАСЮ БЕЛЯМУКУ**

## СМАЧНЫ КУТОЧАК

*Траянцы ўзялісь за ядзеньне,*
*Як з поля панскія харты.*
*Была ў іх затаўкай крупеня,*
*Кулагу пхалі ў жываты;*
*Была ў іх гушча і драчона,*
*І парасяціна смажона.*
.......................................
*Трупаціла яна крупеню,*
*Ячэню, руднік, жур, смажэню,*
*Каму пячэню з часнаком;*
*Былі й салодкія пацешкі:*
*Вяземскі пернікі, арэшкі,*
*Мязгі й мязюму рашаты.*

**«Энэіда навыварат»**

### Крупеня густая

*Яічныя крупы (пансак) — 1 шклянка*
*Мяса — 200-400 гр.*
*Алей — некалькі лыжак*
*Цыбуля — 3-4 сярэднія галоўкі*
*Морква — адзін корань*
*Соль, перац, лаўровы ліст*

Яічные крупы перабраць, заліць халоднай вадой. Мяса парэзаць на дробныя кавалачкі, падсмажыць на алеі амаль да гатоўнасьці.

Перакласьці смажанку ў чыгунок, дадаць дробнапарэзаную цыбулю й моркву (моркву можна пацерці на буйной тарцы).

Зліць з замочаных крупаў ваду, перакласьці ў чыгунок, пасаліць, добра вымяшаць. Заліць кіпетнем і варыць, памешваючы, пад накрыўкай на слабым агні. Пры неабходнасьці дадаваць кіпетню — густая крупеня павінна быць вязкаю. Здобрыць лаўравым лістом, перцам.

## ПОШТА

На пачатку 1998-99 навучальнага году ў лепшых традыцыях савецкіх часоў, для прапагандаваньня дэбільных ідэяў Лукашэнкі й яго халуёў па інтэграцыі нашай краіны з Расеяй Міністэрствам Адукацыі ў старэйшых клясах школаў Беларусі быў аб'яўлены конкурс сачынсньняў на тэму «Беларускі народ і рускі народ — народы браты». Конкурс гэты запланавалі праводзіць на працягу амаль цэлага навучальнага году. Потым будуць падведзеныя вынікі, й пераможцаў, найбольш красамоўных маладых лукашыстаў будуць чакаць узнагароды, магчыма, з рук іхняга куміра.

Але ўсё ж дрэнна ведаюць настроі маладых беларусаў супрацоўнікі міністэрстваў, асабліва тыя, хто быў занесены да нас зь бязьмежных прастораў былой імпэрыі, і каторыя сьпяць і бачаць, як уздымаецца з руінаў адноўлены іхным вусатым правадыром СССР. Дзеці па-просту адмаўляюцца што-небудзь пісаць на гэтую тэму. А найбольш сьмелыя адважваюцца выкласьці на паперы тыя думкі, якія выклікае ў іх прапанова ўзяць удзел у такім конкурсе. Адважваюцца напісаць і аддаць настаўнікам. І якое ж расчараваньне чакае іх, калі настаўнікі хоць і хваляць за добрыя й шчырыя словы, але кажуць, што, нажаль, пасылаць гэтыя творы на конкурс ня могуць. Бо не працаваць ім тады болей у школе, а, магчыма, і іхняму кіраўніцтву.

Выпадкаў такіх без ліч. І вельмі хацелася б падтрымаць нашых дзєтак у гэтым. Яны ж стараліся, пісалі ад чыстага сэрца аб тым, што ім баліць. І, бязумоўна, хацелі, каб прачытала гэта як мага больш людзей.

Верш, які Вам дасылаю, быў напісаны для гэтага конкурсу Андрэем Дзямынчыкам, вучнем 9-й клясы аднаой з мястачковых школ на Горадзеншчыне. Калі, паважаны спадар рэдактар, палічыце магчымым, што надрукуйце яго ў «Беларусе». Можа трошкі замала ў ім аптымізму, але веры ў ім шмат. Але глядзіш, і другие вучні пачнуць Вам дасылаць свае сачыненьні. І тады ўжо віншаваць пераможцаў трэба будзе Вам, а не гэтаму здрадніку-пачвары. А перамога будзе наша агульная. Віншую беларусаў у вольным сьвеце з надыходзячымі 81-мі ўгодкамі незалежнасьці БНР. Жыве Беларусь!

**Баляда аб птушцы**

*Яна ўзьляцела высока...*
*Яна паляцела!*
*А сэрца імкнулась далёка*
*І волі хацела.*
*Хацела да сонца, да неба дастаць,*
*У аблоках з такімі ж пра волю сьпяваць*
*І шчасьце самою ў працы ствараць.*
*А птушак чародка заве:*
*«Паляцелі».*
*Усюды віталі яе,*
*Частавалі, чым мелі.*
*Ды толькі свабоды кароткі быў век:*
*Злавіў гэту птушку адзін чалавек.*
*Забылася хутка і родная мова:*
*Так прагне яе навучаў гаспадар.*
*Так вольныя зьніклі і думка, і слова.*
*Няма ўжо нават тых сонечных мар.*
*Апушчаны крылы, прывучана сэрца,*
*Душа не імкнецца да волі.*
*Ляці! — ёй крычаць, — Вунь адкрыта вакенца!*
*Да позна, няма сілы болей.*
*Ды трэба хучэй ёй з палону ўцякаць,*
*Бо той чалавек ужо жоча прадаць*
*яе на расправу другому.*
*І страшна падумаць і цяжка ўзгадаць,*
*Як птушцы вярнуцца дадому.*
*Ці зможа жыцьцё ёй хто зноў дараваць?*
*Ці нельга ўжо болей нікому?*

***Ліст гэты Вам дасылае***
***Я. Забалінскі***
Мюнхен, 8.3.1999

* * *

Цікавае ўсё-ж жыцьцё беларуса. Вякамі яго рабуюць, зьневажаюць, зьнішчаюць, то кожнага другога, то кожнага чацьвёртага, а ён, як той птахфенікс, узьнікае з попелу й жыцьме! Дзе ў сьвеце знойдеш такую дзяржаву, каб за нейкія чатыры гады шараговы пэнсыянэр стаў мільянэрам! А на Беларусі так.

У 1998 годзе мая пэнсыя вызначалася ў 550 тысяч рублёў ($50). У гэтым годзе 3.5 млн. рублёў ($10). Такім чынам, штодня трэба пражыць на 33 цэнты!

Аб гэтым і другіх цудах напісаў ліст цёце, яна таксама пэнсыянэрка, але жыве ў Канадзе. Яе пэнсыя, на жаль, не вызначаецца шасьцізначнымі лічбамі, але паспачуваўшы нам, былым настаўнікам (цяпер мы з жонкаю абодва калекі), ахвяравала нам грошай на дажываньне і хаўтуры.

Гэта была й радасная, і балючая для нас навіна. Радасная таму, што мы зьбіраліся папраівць свой жабрацкі сямейны бюджэт, а балючая — бо з дасланай сумы каля 30 адсоткаў забірае дзяржава. Гэта ж рабаўніцтва сярод белага дня! Рабаўніцтва тых, каму падалі міластыню. Рабуючы сваіх пэнсыянэраў, рэжым гатовы абрабаваць і іх замежных сваякоў. І рабуе!

Гэтым допісам я хачу зьвярнуцца да тых беларусаў замежжа, якія, ведаючы наша жабрацкае становішча, хочуць дапамагчы сваім блізкім. Не рабіце гэта праз банкі, лепш перадаць грошы праз знаёмых.

**Паўла Бурдыка, г. Полацак**

## СЛОВА ЧЫТАЧА

### НЕ ПАДТРЫМАЦЬ «БЕЛАРУС» НЕЛЬГА

На Беларусі цяпер адно толькі рэпрэсыўныя ўлады карыстаюцца без абмежаваньня тэлебачаньнем ды іншымі сродкамі масавага вяшчаньня. Адраджэнскаму руху застаецца толькі некалькі назоваў газэт, але й яны ня могуць друкаваць усё, бо ўлады рознымі сродкамі спрабуюць выпхнуць гэтыя выданьні з цыркуляцыі.

Як вынік — уладам на Беларусі пры дамінуючай прарасейскай прэсе ўдаецца весьці палітычную дэзарыентацыю беларускага насельніцтва й без асаблівых цяжкасьцяў праводзіць русыфікацыю, ня грэбуючы фізычным зьбіваньнем, кіданьнем за краты, зьдзекамі, катаваньнем. Трэба сказаць адкрыта й голасна: становішча апазыцыйнай прэсы ў Беларусі ёсьць сапраўды роспачнае.

У змаганьні на нашыя беларускія правы немалую ролю адыгрывае газэта «Беларус», якая бяз сумніву цэмэнтуе нашае замежжа, якое ў сваю чаргу ўплывае на Вашынгтонскія колы й на супраціў беларусаў нахабной русыфікацыі на Бацькаўшчыне. Як вольны голас у замежжы, «Беларус» павінен быць без найменшага ваганьня ўсебакова падтрыманы. Можна меркаваць, каля я, ты, ён, усе мы разам не падтрымаем нашае газэты, тады наагул прэсы як такой ня будзе — ня будзе сродкаў на выданьне газэты, якая выдаецца ўжо 50 гадоў. Такая рэчаіснасьць.

**А. Міцкевіч**

### АД РЭДАКЦЫІ

Беларусаў Нью Ёрка й ваколіцаў, якія хацелі б атрымоўваць газэту «Беларус», ветліва просім пісаць на адрас нашых прадстаўнікоў:

Mrs. J. Andrsyshyn,
430 East 6th Street, Apt. 3C
New York, New York 10009
Mr. A. Taljanski
859 47 Street
Brooklyn, NY 11220

Плату за газэту дасылаць на адрэсу:
Belarus
P.O. Box 310178
Jamaica, NY 11431-0178

# ПАВАЛ КУЛЕШ АДДАНЫ СЫН БЕЛАРУСІ

Няма больш з намі Паўла Кулеша!

Пакінуў нас наш бацька, дзед, прадзед і хросны... Ён нас пакінуў 29-га лістапада 1998 г. пасьля каротка-тэрміновай хваробы. Ён храбра змагаўя супроць лютай хваробы — рака — ў апошнія месяцы сваяго жыцьця. Але ж ці гэта надзвычайна, бо ён усё свае жыцьцё змагаўся супраць зла.

Няма больш з намі беларускага нястомнага грамадзкага дзеяча і патрыёта сваей Радзімы!

Нарадзіўся наш суайчыньнік 15-га чэрвеня 1913 года ў Скальбішчы, сын Франца і Еўфрасіні Кулеш. Атрымаў адукацыю агранома. У часы вайны ў нямецкам палоне змог шмат каму з ваеннапалонных аказаць дапамогу, бо працаваў як польска-немецкі перакладчык. Прашоўшы пасьляваенныя бежанскія пакуты, ён імігруе ў Злучаные Штаты Амэрыкі і асядае ў Саўт Рыверы. У 1954 г. ажаніўся зь Нінай Бітус. Стаў любячым бацькам яе дачкі Дзідзі і апякунам яе бацькі інваліда Канстантіна Бітуса. У той жа час ён актыўна працуе у беларускіх грамадзка-палітычных арганізацыях. Ці ж хто з беларусаў ЗША ня ведае Паўла як выдатнага адміністратара і кіраўніка курортнага месца Бэл-Эр Менск у катскілскіх гарах. У росквіце сваіх сіл ён жа і садзейнічаў росквіту гэтага беларускага грамадзка-культурнага цэнтра. Яшчэ з пасьляваенных часоў ён падтрымлівае сувязі з беларускай інтэлігенцыяй, з пісьменьнікамі, паэтамі, мастакамі.

Пасьля выхаду на пэнсію ў 1974 г. ён пераяжджае ў гарадок Рычмонд у штаце Мэйн на поўначы краіны, бо надта тутака яму усё нагадвае родныя мясьціны. Ён нават па магчымасьці наведвае Беласточчыну ў Польшчы, і зь мяжы пазірае са смуткам і журботай на шматпакутнаю Радзіму ... але яму ужо не суджана пабываць на Бацькаўшчыне. Ён актыўна удзельнічае ў хоры і як псаломшчык пры праваслаўнай царкве Св. Міколы. У 1993 г. ён застаёцца удаўцом.

Пахован ён на могілках у Рычмонд. Гэта страта усіх засмуціла. З глыбокім жалем гэта асабліва прыкметна ягонай сям'і — дачкі Надзі, зяця Сцяпана, а таксама чатыром унучкам: Евы, Любы, Соні і Веры, унуку Адаму, і яшчэ чатыром праўнукам Лары, Пятру, Чэлзеі і Захару.

Няма больш з намі Паўла Кулеша! Але ягоныя ідэалы і павага да беларускай мовы і культуры заўсёды будуць жыць, таксама як будзе жыць Беларусь і вечная памяць адданага яе сына Паўла Кулеша.

**Ігар Казак**

# СЬВ. ПАМЯЦІ СТАСЯ ГАТОЎКІ

Нарадзіўся 23.05.1925 г. Памёр пасьля доўгай хваробы 28.02.1999 у горадзе Брадфордзе, паўночная Англія. На паховінах прысутнічала багата народу. Нябожчык пакінуў у смутку сына Джона.

Дык няхай Табе, Стась, сьняцца беларускія палі, лясы, вазёры.

**Міхась Вяченчык**

# АХВЯРАВАНЬНІ

| | |
|---|---|
| Беларуская Асацыяцыя ў Заходняй Аўстраліі | $174,40 |
| Дарэйскі | 100 |
| Л. Кавалёў | 60 |
| А. Ніжнік | 50 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| М. Мароз | 50 |
| А. Мароз | 50 |
| М. Раецкі-малодшы | 50 |
| Г. Бахар | 50 |
| С. Міровіч | 50 |
| Н. Касмовіч | 50 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 40 |
| Спадарства Міхал | 40 |
| С. Бурдзь | 40 |
| У. Гуцько | 40 |
| Т. Такушэвіч | 40 |
| М. Раецкі-старэйшы | 30 |
| М. Белямук | 30 |
| Л. Корчык | 30 |
| М. Радчанка | 30 |
| Лашкевіч | 30 |
| Е. Домброўскі | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Ю. Стагановіч | 30 |
| Ст. Тамара | 30 |
| А. Шостак | 30 |
| І. Чорны | 30 |
| Я. Яновіч | 30 |
| Р. Галяк, у памяць Івана Аўдзея | 25 |

**Фінансавая справаздача за сакавік**
*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| др. Ю. Кіпель | 250 |
| Л. Колін | 100 |
| У. Брылеўскі | 50 |
| В. Дубяга | 50 |
| А. Сямёнаў | 50 |
| Р. Бурдзь | 40 |
| Г. Дубяга | 30 |
| П. Нягода | 30 |
| А. Няпейн | 30 |
| Юры Андрусышын у памяць праф. Антона Адамовіча | 50 |

# ПОШТА

## ПРА НАТАЛЬЛЮ ЧЫМЯРЫСАВУ

Шаноўная рэдакцыя!

У нумары 458 газэты «Беларус» я прачытала паведамленьне аб сьмерці св. памяці Натальлі Чамярысавай. З гэтай жанчынай і сінай сям'ёй зьвязаны вельмі сумны адрэзак майго жыцьця на Беларусі ў канцы 30-х гадоў.

У 1937 годзе расстралялі майго бацьку, маладога таленавітага вайскоўца, Мацея Шрыбава. Я засталася с маткай Ганнай. Жылі мы тады ў Бабруйску. Маміна родная сястра Барбара Вержбаловіч жыла ў Менску, была студэнткай Беларускай Дзяржаўнай Кансэрваторыі, а сінай найлепшай сяброўкай была Натальля Чамярысава. жонка кампазытара Міколы Шчаглова-Куліковіча. У іх была дачка, таксама Натальля (Туся), крыху старэйшая ад мяне. Мы з мамай часта бывалі ў Менску, з Тусяй я вельмі добра бавілася.

У цёткі Барбары былі сваякі: брат ейнага рана памершага мужа, зацяты камуністы, зь сям'ёй. У іх быў сын Анатоль, крыху малодшы ад мяне, зь ім мы добра гулялі у нейкія вельмі «разумныя» гульні.

15-га красавіка 1938 году арыштавалі маю маці., Пад рана нас вывялі з нашага пакойчыка на Пушкінскай вуліцы у Бабруйску, на пакой наклалі сургучовую пячатку й павялі нас праз увесь горад у будынак НКВД (ці як гэты монстр тады называўся?)

Маму, ясна, не выпусьцілі, а мяне хацелі адразу накіраваць у дзіцячы прытулак. Мама сказала, што ейная сястра Барбара напэўна возьме мяне да сябе у Менск. Чыноўнікі вельмі скэптычна да гэтага аднесьліся: сястра-удава, студэнтка, што яна будзе рабіць зь 7-гадовай дзяўчынай? Але пагадзіліся адвезьці мяне на тры дні да суседзяў, а калі праз гэты час мяне не забярэ цётка, тады — дзетдом.

Тэлефонаў у нас тады ня было, суседзі маглі паведаміць толькі тэлеграмай. Але-ж у тэлеграме нельга было пісаць праўду: яна-б ніколі не дайшла. Напісалі, што мая маці цяжка хворая й каб Барбара прыехала. Нашчасьце, цётка адразу зразумела ў чым справа й пад вечар 3-га дня прыехала у Бабруйск. Пабегла ў НКВД, каб хоць маё адзеньне дазволілі узяць. Дзе там! Засталая я ў чым была.

Вельмі сумна было мне пакідаць Бабруйск, але сваю цёцю Барбару я вельмі любіла, а тут яшчэ пэрспэктыва бачыцца часьцей з Тусяй і з Толікам.

Так яно й выглядала на самым пачатку. Але праз некаторы час на ўсе мае просьбы пайсьці да Толіка цёця пачала неяк выкручвацца: то часу няма, то яшчэ нешта. Я-ж не здавалася й цёця мусіла у сьлязох прызнацца мне, што дзеля таго, што заарыштавалі маю маму, цёткін сваяк, бацька Анатоля, сказаў, каб мы да іх больш ня прыходзілі...

Тое, што было далей, дабіла мяне канчаткова. Цёця, як магла, намагалася вытлумачыць малой дзяўчынцы, што ня гледзячы на тое, што ўсе ведаюць, што ейнай маці абсалютна ня ў чым не павінна, мы жывем у такім часе, што нават адданы сябра партыі нас баіцца. А дзеля гэтага, сказала цёця Барбара, яна лічыць, што мы не павінны хадзіць і да Чамярысавых-Шчагловых, бо ім мы й сапраўды можам пашкодзіць: гэтая сям'я мела рэпутацыю няпрыхільных да савецкай улады.

Тымчасам цёціна сяброўка Натальля Чамярысава пачала дзівіцца, чаму мы да іх ня прыходзім. Цёця ўхілялася ад адказу як магла, але цётка Натальля была жанчына вельмі разумнай і энэргічная, яна адразу зразумела, што нешта не ў парадку. Яна так прыціснула цёцю Барбару, што тая прызналася, што яна баіцца, што праз нас у іх будуць няпрыямнасьці. Божа мой, што было! Натальля аблаяла маю бедную цёцю Барбару: як яна магла толькі падумаць, што яны будуць цурацца дзяўчынкі, маці каторай «пасадзілі» ні за што!!!

З таго часу сям'я Чамярысавых-Шчагловых пачала дэманстрацыйна яшчэ лепш да мяне адносіцца: яшчэ часьцей запрашалі да сябе, пакідалі ў іх па некалькі дзён, апраналі, калі куплялі нешта для Тусі — куплялі й для мяне, вазілі на сваю дачу й г.д.

Ня гледзячы на вельмі цяжкія ўдары лёсу (хлопчык Коля, якога Шчагловы узялі да сябе зь дзіцячага дому ў Менску ў часе вайны, аказаўся ненармальным; на 39-м годзе жыцьця памерла дачка Туся) Натальлю Чамярысаву да самай ейнай цяжкай хваробы не пакідалі аптымізм і дабразычлівасьць. Ад самага пачатку нашага пабыту ў ЗША ў чэрвені 1950 году яна закахалася у гэтую краіну. Тут ёй падабалася абсалютна усё.

Дык няхай-жа будзе ёй лёгкай-лёгкай наша амэрыканская зямля.

**Галіна Руднік (Ганчарэнка-Грыбава)**

Мюнхен, 8.3.1999

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА

14 сакавіка адбылося сьвяткаваньне 81-х угодаў незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў Саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага на Брукліне.

Пасьля Літургіі й Малебну ўдзельнікі сьвяткаваньня сабраліся ў залі Сабору, дзе іх чакаў пачастунак падрыхтаваны сп-няй Данілюк.

Урачыстая частка пачалася агульнай малітвай і адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Невялікі рэфэрат прачытаў сп. Андрэй Падлескі. У ім ён напомніў прысутным аб найбольш яркіх момантах, зьвязаных з узьнікненьнем БНР, адзначыўшы непраходзячую важнасьць тых падзеяў для наступных пакаленьнях беларускіх патрыётаў.

Шкада, што далёка ня ўсе вернікі, якія гуртуюцца пры Саборы, змаглі ўзяць удзел ва ўрачыстасьці. Відаць, незаўсёды штодзённыя клопаты й праблемы дазваляюць зрабіць гэта. А магчыма паўплывала тое, што праз тыдзень павінна было адбыцца сьвяткаваньне, якое ладзіць Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, і некаторыя людзі вырашылі выкраіць час толькі на гэтую імпрэзу. Але, якія б прычыны не паўплывалі на колькасьць прысутных, упэўнены, што большасьць з тых, хто не прыйшоў, ужо пашкадавалі аб гэтым. Бо такога выдатнага канцэрту, які падрыхтаваў сп. Аляксандар Балотнік, даўно ўжо не было ў Нью Ёрку. Вельмі прыемна было даведацца, што ў нашай грамадзе зьявіўся яшчэ адзін таленавіты сьпявак і аранжыроўчык. Хочацца спадзявацца, што мы будзем яго бачыць і на другіх беларускіх імпрэзах. Падрыхтаваць канцэрт дапамаглі таксама спадары Валянтын Дзямешчык і Ігар Кавальчук.

**М. Клакоцкі**